**№ 99 (4146)**

20 снежня 2016 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

www.nv-online.info

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог
Выхадзі, мой народ, грамадою...*
**Якуб КОЛАС**

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*



Станислав БОГДАНКЕВИЧ, экс-глава Нацбанка Беларуси, доктор экономических наук:

## Я уже выписал «Народную Волю» на первое полугодие 2017 года

– Я считаю, что на сегодняшний день это самая интересная газета в Беларуси. Газета, которая пишет правду. И показывает жизнь такой, какая она есть. Не одинаковую, не приглаженную, как в телевизоре, а настоящую, разную.

Мне нравится, что в «Народной Воле» представлены разные взгляды. Газета, как мне кажется, объективная.

Если честно, то «Народную Волю» на почте всегда выписывает моя жена. Она тоже большая ее поклонница.

У меня есть шурин, он постоянно приносит нам газеты, которые мы не выписываем. Я их просматриваю, но больше всех все-таки люблю «Народную Волю». Я достаю ее из своего почтового ящика больше 20 лет…

Всем рекомендую: подписывайтесь, хорошая газета!

НЕЗАВИСИМАЯ ЭКСПЕРТИЗА



Борис ЖЕЛИБА, профессор, доктор экономических наук

## Нет реформ – пиши пропало!

Россия меняет свою экономическую политику в отношении Беларуси и, к сожалению, не на пользу нам. Об этом достаточно красноречиво свидетельствуют так и не разрешенный нефтегазовый спор и отказ России выделить Минску в этом году очередной кредитный транш Евразийского банка. В результате до конца года так и не удастся вернуть, как выражается правительство, на восстановительную траекторию динамику ВВП, доходов населения и других показателей.

Бодрые заявления высоких чиновников о планах на следующий год и о том, что белорусская экономика уже нащупала кризисное дно и готова от него оттолкнуться, не подтверждаются реальностью. Хотя в октябре отмечен некоторый рост промышленного производства по сравнению с сентябрем (+3,6%), за январь–октябрь по сравнению с аналогичным периодом 2015 года оно в минусе на 1,5%. Если есть рост по некоторым товарным позициям легпрома, то он зачастую увеличивает складские запасы. Так, на 1 ноября 2016 года на складах скопилось шерстяных тканей за 8,9 месяца работы производства, обуви – за 5,7 месяца, а предметов и аксессуаров из натурального меха – аж за 26 месяцев.

Ухудшаются финансовые показатели коммерческих организаций Беларуси – с 10,4% до 9,3% снизилась рентабельность продукции, с 18,6% до 21% увеличился удельный вес убыточных предприятий.

С началом отопительного сезона резко увеличилось отрицательное сальдо внешней торговли Беларуси: с 279,4 млн долларов в сентябре до 443,2 млн в октябре. Валютные поступления за 10 месяцев сократились на 13,2%, или на 3,6 млрд долларов.

Чистая продажа валюты населением, которая в основном поддерживала обменные курсы белорусского рубля, уменьшается третий месяц подряд. Если в августе белорусы сдали 752 млн долларов, то в октябре – 645 миллионов. И лед тронулся. В последние дни рубль ослабевает до 1,95–1,97 единицы за «зеленый». Рост проблемных кредитов в банках также не удается остановить. С начала года их доля в кредитных портфелях банков увеличилась в 2,2 раза и достигла критических 14,9%. Причиной тому растущая неспособность обслуживать кредиты реальным сектором экономики. Все это создает угрозу банковской системе страны.

Вдвойне настораживают заявления Лукашенко о повторном выходе на среднемесячную зарплату в 500 долларов. Хотя это невозможно в принципе, но есть опасность отхода денежных властей от жесткой монетарной политики, с тем чтобы вновь «разогреть печатный станок», как это было в «лучших традициях» 2010 года. Но затем, как помнится, последовал валютный кризис 2011 года с ростом цен в 2 раза и почти трехкратной девальвацией белорусского рубля.

Пока же Нацбанк является, пожалуй, единственным из ведомств, которое выполняет плановые показатели. И по инфляции, и по ставке рефинансирования, и по снижению банковских кредитных процентов. Не без усилий Нацбанка сложился определенный белорусский парадокс: стабильность белорусского рубля достигнута в результате обеднения населения, пополняющего валютный рынок за счет своих худеющих сбережений.

Война в Украине, западные санкции и падение мировых цен на нефть заставили шевелиться правительство России. Им взят курс на импортозамещение. В этой ситуации белорусским производителям будет все труднее конкурировать с россиянами на их рынках. Несмотря на некоторый так нужный российскому рынку рост мировых цен на нефть, как следствие договоренности стран ОПЕК об ограничении ее добычи, сложности со сбытом продукции на этом рынке останутся у МАЗа, МТЗ, «Гомсельмаша» и других белорусских предприятий.

Экономика и бюджет Беларуси все больше прогибаются под тяжестью государственных долгов. По совокупному госдолгу в 2017 году Беларусь должна выплатить 7729 млн деноминированных рублей. Из них 4001 млн рублей пойдут на погашение и обслуживание внешнего госдолга (он, естественно, в валюте), а 3728 млн рублей – на внутренний госдолг. Причем большая доля выплат по внутреннему госдолгу номинирована и в иностранной валюте. Это порядка 1,3 млрд долларов. Следовательно, весь госдолг в валюте на 2017 год потянет на 3,1 млрд долларов. Есть еще и обязательства по валютным облигационным займам Нацбанка. На следующий год они составляют 1551,3 млн долларов и 291,2 млн евро. Суммировав и их, эксперты получили общую сумму выплат по долгам в 2017 году в 5–5,1 млрд долларов.

Таким образом, белорусская экономика вступает в новый 2017 год с тяжелым грузом проблем: перевести рецессию хотя бы в стагнацию не удалось, при сжимающемся ВВП и растущем государственном долге их соотношение достигло предельных значений, пятый год подряд падает валютная выручка, ускоряющийся рост проблемных кредитов подрывает стабильность банковской системы, растет доля убыточных предприятий, все большее количество из них выполняет вместо экономических только социальные функции, снижается жизненный уровень населения, растет безработица, увеличиваются поборы с населения. Нет кредита от МВФ, ухудшились отношения с Россией. Поэтому сколько бы заявлений ни делали чиновники, искать предпосылки восстановления белорусской экономики возможно только в глубоких ее реформах.

З УСМЕШКАЙ



Анатоль ЗЭКАЎ

## Год Пеўня

Ён надыходзіць, пеўнеў год,
каб петушыцца над планетай.
Ды пеўню што з таго турбот:
тапчы курэй – адно і ведай.

Ён важна ходзіць па двары,
ці то на плот дзе сядзе вышай.
Няхай таўкуць мак камары,
а ў пеўня клопат зусім іншы.

Для пеўня розніцы няма,
чый год цяпер,
чый будзе потым,
ці то вясна,
ці то зіма –
ў яго заўжды адна работа.

ІНІЦЫЯТЫВА

### Ці прыслухаюцца да Анісім яе калегі па парламенце?

*Дэпутат Палаты прадстаўнікоў Алена Анісім мае намер ініцыяваць у парламенце слуханні па пытанні ўвядзення мараторыя на смяротнае пакаранне ў Беларусі.*

Як паведаміла Анісім, прычынай для агульнапарламенцкіх слуханняў можа стаць ліст, разасланы дэпутатам прадстаўнікамі незарэгістраванай праваабарончай арганізацыі **«Вясна»**, у якім праваабаронцы агітуюць дэпутатаў за адмену смяротнага пакарання.

ПА-ЗА ГУЛЬНЁЙ

### Заробак Віктара Ганчарэнкі ў ЦСКА

Стала вядома, што былы беларускі трэнер **Віктар Ганчарэнка** ўзначаліў маскоўскі футбольны клуб ЦСКА.

Паводле слоў агента У.Абрамава, яго заробак складзе 350 тысяч еўра ў год, што ў пяць разоў меней, чым ён быў у экс-настаўніка армейцаў **Леаніда Слуцкага.**

ПРЭЗЕНТАЦЫЯ

## Дзякуй за пакупку!

*У гандлёва-забаўляльным цэнтры «Galleria Minsk», які нядаўна адкрыўся на праспекце Пераможцаў у Мінску, запрацаваў гіпермаркет «Еўраопт». Дзве касы ў краме будуць беларускамоўныя.*

Вонкавае афармленне (шыльды, указальнікі і гэтак далей) выканана на трох мовах – прыярытэтная беларуская, а ўнізе інфармацыя па-руску і па-англійску.




ПОМНІМ!

## Дзень годнасці

*Учора, 19 снежня, была гадавіна Плошчы 2010 года.*



Хто толькі і чаго толькі пра яе не пісаў! Як высокага, узнёслага, гэтак і паклёпніцкага, зневажальнага. У апошнім асабліва пазавіхаліся баязліўцы, якія прасядзелі той дзень дома на канапе, ды напалоханыя ўсплёскам беларускага духу так званыя лукашысты. Але не пра гэта і не пра іх сёння ўспамінаць…

Так сталася, што ўчора мы развіталіся з пісьменнікам Леанідам Мараковым. Не ведаю, ніколі не пытаўся ў яго, ці быў ён сам на Плошчы, але тыя сотні, тысячы беларусаў, найлепшых сыноў Айчыны, ахвяраў сталінізму, камуністычнага тэрору, імёны якіх уратаваў Маракоў ад забыцця, памяць пра якіх захаваў у сваіх кнігах для нашчадкаў, на Плошчы былі! Маўкліва стаялі плячом да пляча з намі. І няхай яны маўчалі, але:

*Мы ведалі,*
*пра што маўчалі з імі!..*
*Жывыя з мёртвымі.*
*І мёртвыя з жывымі.*

Не так даўно журналіст Уладзімір Хільмановіч выдаў кнігу «Беларускае золата», у якой распавёў пра найбольш слынныя месцы і падзеі нашай гісторыі. Сярод іншага – пра Плошчу:

*«Пройдзе больш працяглы час, і дата 19.12.2010 стане ў адным шэрагу з 25 Сакавіка, з 27 Ліпеня, стане як вяха ў змаганні за нашу дзяржаўнасць, волю, праўду, справядлівасць, адвечнае права «людзьмі звацца», стане асобнай гістарычнай каштоўнасцю нашай краіны. А на Плошчы імя Каліноўскага будзе стаяць Стэла Годнасці».*

Так будзе.

*Бясконца наша мара*
*аб свабодзе*
*Вядзе нас па зямлі і па вадзе,*
*Як сонца, што ніколі*
*не заходзе,*
*Як зорка, што ніколі*
*не ўпадзе!*

Наш рух па гэтым шляху не скончаны, толькі перарваны…

Жыве Беларусь!

**Уладзімір НЯКЛЯЕЎ.**

СКАНДАЛ

## Намеснік гендырэктара МТЗ – за кратамі!

*КДБ паведаміла, што намесніка па фінансавых і эканамічных пытаннях Трактарнага завода Ніну Прымшыц і яшчэ трох службовых асоб затрымалі падчас атрымання хабару.*

Інфармацыя пра тое, што Камітэтам дзяржаўнай бяспекі "спынена супрацьпраўная дзейнасць службовых асоб" Мінскага трактарнага завода, МАЗа, БелАЗа і «Гомсельмаша», з'явілася ўчора на сайце ведамства.

*«Устаноўлена, што прадстаўнікі кіраўніцтва і работнікі прадпрыемстваў машынабудаўнічага комплексу за атрыманне незаконных узнагароджванняў ад камерцыйных структур забяспечвалі прасоўванне прадукцыі апошніх»*, – вынікае з паведамлення. З 2013 года ім перададзена хабараў на суму не менш за 200 тысяч долараў ЗША. *«У перыяд з 5 па 7 снежня 2016 года пры атрыманні хабараў на суму больш за 7500 рублёў на месяцы злачынства затрыманы чацвёра прадстаўнікоў ААТ «МТЗ», ААТ «МАЗ» і ААТ «БелАЗ». Сярод іх фінансавы дырэктар – намеснік генеральнага дырэктара ААТ «МТЗ» Н.Прымшыц. Акрамя гэтага, за атрыманыя раней узнагароджанні ў памеры каля 40.000 рублёў затрыманы яшчэ 4 супрацоўнікі канструктарскіх і планава-эканамічных падраздзяленняў ААТ «МТЗ».*

Да ўсіх затрыманых прыменена мера стрымання ў выглядзе заключэння пад варту. Супраць іх распачаты крымінальныя справы за атрыманне хабару і прыняцце незаконнага ўзнагароджання.

**Ігар ЗАЛЕСКІ.**

ОСОБЫЙ ВЗГЛЯД

## Леонид ЗАИКО: «Люди не представляют, что ВВП стал меньше на 30 миллиардов долларов в год»

*По прогнозам чиновников, в следующем году в Беларуси средняя зарплата вырастет до 500 долларов. При этом министр экономики Владимир Зиновский не скрывает: чтобы достичь такой цифры, нужно будет серьезно потрудиться. Ведь для того, чтобы росла зарплата, должен быть рост производительности труда.*

*Кандидат экономических наук Леонид Заико считает, что сегодня нужно обращать внимание на совсем другие цифры. И не надеяться, что зарплата вырастет сама собой.*

*«В 2014 году размер валового внутреннего продукта у нас был 75 миллиардов долларов, а в этом году вряд ли превысит 45*, – объясняет Леонид Заико «Народной Воле». – *Люди не представляют, что ВВП стал меньше на 30 миллиардов долларов в год. Сейчас ВВП в пересчете на доллары меньше, чем в 1991 году. И это диагноз нашей экономике…*

*Реально ли совершить рывок и достичь зарплаты в 500 или 700 долларов, имея сегодня лишь 320–350? Можно, конечно, еще в два раза увеличить покупку русской нефти, построить пару нефтеперерабатывающих заводов… Никаких иллюзий здесь быть не должно».*

**500 долларов для средней зарплаты – это много или мало?**

*«Обычно средний квадратный метр жилья должен стоить столько, сколько составляет средняя зарплата*, – говорит экономист. – *Тут прямая симметрия, чисто рыночное равновесие. Сейчас у нас квадратный метр, если не ошибаюсь, стоит от 800 до 1400 долларов. Вот и считайте…»*

Не секрет, что сегодня белорусы научились жить на 350–400 долларов. А некоторые умудряются выживать еще и на меньшие суммы.

Кстати, считается правильным ежемесячно сберегать около 10 процентов от заработка…

*«В последнее время потребление товаров значительно снизилось: в оптовой торговле – на 10 процентов, в розничной – около 4 процентов*, – говорит Заико. – *Люди стали меньше делать покупок – это совершенно естественно. Доходы на душу населения упали примерно на 7 процентов».*

**Сколько нужно иметь денег, чтобы сегодня чувствовать себя более-менее комфортно?**

*«Объем потребляемых благ зависит от социального статуса, возраста, состава семьи*, – говорит кандидат экономических наук. – *На семью из четырех человек, где двое работающих, годовой доход на уровне 10,5 тысячи долларов по нашим меркам будет считаться довольно высоким. И эта цифра близка к тому, чтобы люди чувствовали себя достаточно уверенно.*

*Однако дело не только в том, сколько денег ты получаешь. Важный момент – надежность доходов. Я знаю предпринимателей, которые купят пару шуб в Греции, продадут, заработают здесь 2000 долларов и думают, что это здорово. На самом деле такие доходы не являются знаковыми.*

*Наиболее высоких доходов человек достигает, как правило, к 45 годам. У балерин, конечно, раньше – к 25 годам, у спортсменов – до 30. Для среднестатистического белоруса иметь в 45 лет доход около 10,5 тысячи долларов в год – это неплохо».*

**Даша ПАВЛОВСКАЯ.**

ВЕРДЫКТ

## 10 гадоў з канфіскацыяй

*Такі прысуд вынес учора Мінскі абласны суд экс-дырэктару птушкафабрыкі «Рассвет» Гомельскага раёна. Адбываць пакаранне былы чыноўнік будзе ў папраўчай калоніі ўзмоцненага рэжыму.*

Бок абвінавачання таксама дамогся таго, каб падсудны быў пазбаўлены права займаць арганізацыйна-распарадчыя і адміністрацыйна-гаспадарчыя пасады тэрмінам на пяць гадоў. Тэрмін адбывання пакарання будзе вылічацца з 19 снежня 2016 года. У тэрмін пакарання будзе залічаны час утрымання пад вартай: з 19 снежня 2014 года.

Былы кіраўнік прызнаны вінаватым у атрыманні хабару, злоўжыванні службовымі паўнамоцтвамі, перавышэнні службовых паўнамоцтваў, неналежным выкананні службовай асобай службовых абавязкаў з прычыны нядбайнага стаўлення да службы. У ходзе разбіральніцтва дзяржабвінавачанне запрасіла для падсуднага 11 гадоў пазбаўлення волі ў папраўчай калоніі ўзмоцненага рэжыму з канфіскацыяй маёмасці. Паводле слоў пракурора, падсудны, якога вялі карыслівыя матывы, насуперак эканамічным інтарэсам прадпрыемства выкарыстоўваў службовае становішча ў якасці сродку і спосабу асабістага ўзбагачэння і здзейсніў шэраг супрацьпраўных дзеянняў, што пацягнула прычыненне шкоды фабрыцы ў асабліва буйным памеры. Таксама бок абвінавачання паказаў, што былы дырэктар птушкафабрыкі выбудаваў сістэму пабораў.

Бок абароны падчас спрэчак адзначыў, што падсудны не заслугоўвае такога празмерна жорсткага пакарання, пра які просіць дзяржабвінаваўца. Адвакат адзначыў, што сродкі не ішлі ў кішэню экс-дырэктару, і прасіў прызначыць пакаранне, не звязанае з пазбаўленнем волі.

Інфармацыя пра ўзбуджэнне крымінальнай справы ў адрас дырэктара птушкафабрыкі з'явілася ў прэсе ў лютым 2015 года. 19 снежня 2014 года супрацоўнікі КДБ затрымалі яго пры атрыманні хабару ў 50 мільёнаў беларускіх рублёў. Менавіта столькі «каштавалі» паслугі дырэктара за спрыяльнае вырашэнне пытання аб заключэнні дагавораў будаўнічага падраду. У цэлым ён абвінавачваецца ў тым, што на працягу некалькіх гадоў сістэматычна прымаў незаконныя грашовыя ўзнагароджанні за садзейнічанне ў вырашэнні пытанняў, якія ўваходзяць у яго кампетэнцыю, звязаных са службовым становішчам, якое ён займаў.

Агульная сума хабараў, якія атрымаў экс-дырэктар птушкафабрыкі ад прадпрымальнікаў, склала больш за 2,5 мільярда беларускіх рублёў.

Прысуд у законную сілу не ўступіў і можа быць абскарджаны і апратэставаны ў апеляцыйным парадку ў Вярхоўным судзе на працягу 10 сутак з дня абвяшчэння.

ФІНАНСЫ

## Мяняйце чэкі на акцыі

*У Мінску і Мінскай вобласці чэкі «Маёмасць» можна будзе абмяняць на акцыі яшчэ 14 ААТ. Зрабіць гэта можна* з 10 студзеня 2017 года.

Такім чынам дзяржава забяспечвае выкананне гарантыі на права ўладальнікаў імянных прыватызацыйных чэкаў бязвыплатна атрымаць частку дзяржаўнай маёмасці, адзначылі ў Дзяржкаммаёмасці.

Так, да абмену на чэкі «Маёмасць» дадаткова будуць прапанаваны акцыі наступных ААТ з доляй дзяржавы: «Смілавіцкая валюшна-лямцавая фабрыка» – 169.272 акцыі; «Барысаўскі шпалапрапітачны завод» – 198.000 акцый; «Дарбудмантажтрэст» – 198.000; «Мінскі вагонарамонтны завод» – 198.000; «Радашковіцкі керамічны завод» – 50.000; «Спецрамонт» – 198.000; «Будтрэст №21» – 167.711; «Упраўленне механізацыі №12» – 144.019; «Упраўленне механізацыі №91» – 99.000; «Прамсувязь» – 198.000; «Белзааветзабяспечпрам» – 198.000; «Калядзічыаграмаш» – 112.383; «Мінскагратранс» – 198.000; «Барысаўскі аўтарамонтны завод» – 51.858 акцый.

Для абмену чэкаў «Маёмасць» на акцыі адкрытых акцыянерных таварыстваў грамадзяне павінны звяртацца ва ўстанову ААТ «АСБ Беларусбанк» па месцы жыхарства (пры сабе неабходна мець пашпарт і сертыфікат чэкаў).

Абмену належаць чэкі «Маёмасць» асабіста налічаныя, атрыманыя ў спадчыну, а таксама атрыманыя па дагаворах дарэння ад блізкіх сваякоў (бацькоў, дзяцей, мужа і жонкі, родных братоў і сясцёр, унукаў, бабуль, дзядуль, свекрыві, свёкра, цесця і цешчы), падораныя чэкі павінны быць пералічаны на сертыфікат грамадзяніна, які робіць абмен.

Абмяняць на акцыі адкрытых акцыянерных таварыстваў можна не больш за 250 падораных чэкаў «Маёмасць», паведамляе БелаПАН.

Спісы адкрытых акцыянерных таварыстваў, акцыі якіх прапаноўваюцца да абмену на чэкі «Маёмасць», знаходзяцца ў кожным падраздзяленні ААТ «АСБ Беларусбанк».

ДЛЯ ДАВЕДКІ

Як паведамляе myfin.by, на руках у грамадзян засталіся нерэалізаванымі каля 40% ІПЧ «Маёмасць». Згодна з заканадаўствам, яны падлягаюць кампенсацыі дзяржавай пасля заканчэння чэкавай прыватызацыі па намінальным кошце 4400 недэнамінаваных рублёў (згодна з пастановай Саўміна № 756 ад 6 ліпеня 2005 года), што складае ў агульнай колькасці каля 800 млрд рублёў. Тэрмін абарачэння чэкаў «Маёмасць» у чарговы раз працягнуты да 30 чэрвеня 2019 года.

ТОЧКИ НАД «І»

# Как увольняют министров…

*Когда в Беларуси назначают министров, послов и других высокопоставленных чиновников, то их показывают по телевидению всей стране. Нередко напутственное слово дает сам Александр Лукашенко.*

*А снимают тех же, скажем, министров тихо, без трансляции и комментариев. Куда и, главное, почему уходят с высоких должностей прежние руководители, как правило, остается тайной за семью печатями. Во всяком случае первое время после увольнения о них зачастую ничего не слышно.*

Вот, например, на прошлой неделе в Беларуси в два министерства пришли новые руководители: **Игорь Карпенко** возглавил Министерство образования, **Валерий Малашко** стал министром труда и соцзащиты. И если с их кадровыми назначениями все понятно, то отставка министра образования **Михаила Журавкова** – один большой вопрос.

За что уволен Михаил Журавков?! Министр, который проработал на посту всего лишь два года, но за это время Беларусь наконец-то вступила в Болонский процесс, при нем разрабатывалась «дорожная карта» по работе нашей системы образования в рамках Болонской системы, обсуждались планы по реформам высшего образования страны, заявлялось о корректировке системы поступления в вузы. Журавков выступал за то, чтобы историю и географию Беларуси школьники изучали на белорусском языке.

Кто-нибудь видел указ об отставке Журавкова? Что написано в этом документе? Вносит ли он хоть какую-то ясность в это неожиданное для многих кадровое решение?

Сам Журавков в отпуске, говорит, что *«очень далеко за границей»*, и пока от комментариев отказывается. Пресс-секретарь Министерства образования **Юлия Бородун** на просьбу назвать причины увольнения бывшего министра сказала буквально следующее: *«Указа у нас нет. Как и вы, я точно так же прочла сообщение БЕЛТА».*

В пресс-службе президента тоже не дают пояснений: *«Все на нашем сайте»*. Но в официальном сообщении пресс-службы ни слова об уволенном Журавкове, только напутствие А.Лукашенко новым назначенцам.

Правда, текст указа №454 от 15 декабря 2016 г. «Об освобождении от должности» есть на национальном правовом портале. Его можно процитировать, это не займет много места, потому что указ президента – одно предложение:

*«Освободить Журавкова Михаила Анатольевича от должности Министра образования Республики Беларусь в связи с переходом на другую работу».*

*– Данный указ – это неуважение к человеку, это пренебрежительный стиль действующего руководства*, – считает известный юрист, экс-судья Конституционного суда Михаил Пастухов. – *Министр – это не рядовой чиновник, это важное должностное лицо. Прежде чем его уволить, необходимы предварительные консультации, встречи, необходимо предъявить обоснованные претензии министру. На мой взгляд, надо менять порядок формирования правительства и освобождения от должностей министров. Это должна быть прерогатива парламента. И гласность в этом случае должна быть абсолютной: и сам чиновник, и общество должны знать, за что человек освобожден от должности.*

По мнению Михаила Пастухова, *«формулировка «в связи с переходом на другую работу» – это не гарантия того, что экс-министр или другое уволенное должностное лицо будет трудоустроено в соответствии с его профессиональными качествами. Нельзя исключить и того, что через месяц-другой мы узнаем, что против уволенного чиновника заведено уголовное дело или он уехал из страны и работает, например, в России».*

К слову, по неофициальной информации, Михаил Журавков освобожден от должности по представлению Генеральной прокуратуры в связи со скандалом вокруг питания воспитанников детских интернатных учреждений.

Как нам удалось выяснить, такое представление действительно было, но оно еще не рассмотрено. И претензии у правоохранителей есть и к другим ведомствам: Минздраву, Министерству труда и соцзащиты.

*«Генеральная прокуратура не ставила вопрос о снятии министра Журавкова с должности»*, – так прокомментировал ситуацию пресс-секретарь Генпрокуратуры **Петр Киселев**.

Так за что все-таки уволен Михаил Журавков? Пока ответа на этот вопрос нет.

ИЗ ПЕРВЫХ УСТ

## Сергей МАСКЕВИЧ, министр образования с 2010-го по 2014 год: «Все индивидуально…»

Когда в декабре 2014 года с поста министра образования был уволен предшественник Михаила Журавкова – **Сергей Маскевич**, в указе о его освобождении от должности не было даже этих слов – «в связи с переходом на другую работу». И после увольнения Маскевич сидел без работы. Только в сентябре прошлого года он возглавил Экологический институт. Причем ранее самостоятельное высшее учебное заведение – Международный государственный экологический институт им. Сахарова – включили в состав Белгосуниверситета, правда, в качестве юридического лица. Но в любом случае понятно, что экс-министру Маскевичу предложили должность весьма скромную. Кстати, причины увольнения Маскевича до сих пор остаются неясными. Как известно, указ о его освобождении с должности министра образования появился вскоре после публичного замечания Александра Лукашенко о том, что дети Маскевича живут и обучаются за границей, а он в это время реформирует систему образования Беларуси.

**– Сергей Александрович, как увольняют министров? Им сообщают причины увольнения? Объясняют, с чем связана отставка? –** дозвонились мы до теперь уже директора Международного государственного экологического института им. А.Д.Сахарова БГУ.

– Все индивидуально…

**– Вам лично сообщили причины вашего увольнения в 2014 году?**

– Тогда меняли правительство. Уходил премьер, вице-премьер, глава Нацбанка, некоторые министры. С этим было связано…

**– Почему год вы были без работы?**

– Как это без работы? Я работал в науке, и работал очень напряженно. Кроме того, я уходил с должности министра уже будучи пенсионером.

**– А как происходило ваше новое назначение: кто предложил стать директором Экологического института?**

– Какая разница, как и кто… Мне самому очень хотелось реализовать еще некоторые идеи.

**– Сергей Александрович, возвращаясь к вашей отставке. Тогда журналисты усмотрели связь с высказываниями Александра Лукашенко, что, мол, дети министра образования учатся за границей… А где сейчас ваши сыновья, чем занимаются?**

– Извините, но на этот вопрос я не буду отвечать.

ШТРИХ

## После отставки

Только один экс-министр образования после отставки пошел на повышение – это **Александр Радьков**, который учился с Александром Лукашенко в Могилевском désинституте и жил с будущим руководителем Беларуси в одном студенческом общежитии. Радьков руководил Министерством образования с 2003-го по 2010 год. 29 декабря 2010 года он был освобождён от занимаемой должности и стал первым заместителем главы Администрации президента. В настоящее время Радьков является председателем общественного объединения «Белая Русь».

Предшественник Радькова – **Петр Бригадин** – в кресле министра сидел недолго: с 2001-го по август 2003 года. Летом 2003-го был ликвидирован Национальный гуманитарный лицей имени Коласа, а также принято решение вернуть в университеты страны курс по идеологии. В кулуарах говорили, что Бригадин не был сторонником таких перемен в образовании и тихо ушел с поста министра. Был ли это действительно тихий бунт, не известно. Петр Бригадин сразу же после отставки возглавил Государственный институт управления и социальных технологий БГУ, директором которого является до сих пор.

До Бригадина системой образования руководил **Василий Стражев**. Он был первым министром образования независимой Беларуси (с 1994 года). После отставки в 2001 году руководил БГУ, потом Республиканским институтом китаеведения. Сейчас на пенсии.

**Мария ЭЙСМОНТ.**

РАЗВІТАННЕ

## Бывайце, спадар Леанід!



Учора ў мінскім Свята-Петра-Паўлаўскім саборы развіталіся з пісьменнікам і даследчыкам сталінскіх рэпрэсій **Леанідам Мараковым**, які пайшоў з жыцця ва ўзросце 58 гадоў пасля змагання з пухлінай мозгу.

Маракоў памёр раніцай 17 снежня пасля цяжкай хваробы ва ўзросце 58 гадоў. На пачатку года ён перажыў інсульт, пасля якога ў яго выявілі пухліну галаўнога мозгу.

Леанід Маракоў быў паспяховым бізнесменам, але, калі пачаў вывучаць лёсы рэпрэсаваных сваякоў, пісаць кнігі, цалкам прысвяціў сябе гэтай справе. Ён выдаў шматтомны энцыклапедычны даведнік пра рэпрэсаваных беларусаў, кнігу пра катаў, празаічныя творы.

*“У нечым Леанід быў святы чалавек, які ахвяраваў часткай жыцця, бізнесам дзеля памяці, дзеля гісторыі”*, – сказаў на развітанні палітык Мікалай Статкевіч.

ЧУЛІ?

## Бацька ў дэкрэце

*У Беларусі ў адпачынку па доглядзе за дзіцем знаходзяцца каля 3 тысяч бацькаў.*

Такія лічбы прывёў намеснік міністра працы і сацыяльнай абароны **Аляксандр Румак** на пасяджэнні першай сесіі Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь.

Калі параўноўваць з еўрапейскімі краінамі і краінамі блізкага замежжа, у Беларусі дэкрэтны адпачынак самы працяглы – тры гады.

– У шэрагу краін Еўропы ў дэкрэт адпускаюць на 4–6 месяцаў, – падкрэсліў намеснік міністра.

ЖАХ!

## Забіў маці з-за бутэлькі віна

У Маларыцкім раёне 41-гадовы мясцовы жыхар абвінавачаны ў забойстве 62-гадовай маці.

Як паведамілі ў Следчым камітэце па Брэсцкай вобласці, падчас сваркі ён нанёс маці «не менш за сем udaраў рукамі і нагамі, а таксама шкляной бутэлькай і жаночым ботам у вобласць галавы і цела».

Міліцыю выклікалі суседзі, якія пачулі шум у доме. Жанчына была яшчэ жывая, калі прыехалі супрацоўнікі органаў унутраных спраў. Праз некалькі дзён ад атрыманых цялесных пашкоджанняў яна памерла ў бальніцы. Відавочна, што сын падчас сваркі быў у стане алкагольнага ап’янення. А скандаліць ён стаў з-за таго, што маці выпіла бутэльку віна, якую ён набыў за свае грошы.

Народная Воля http://www.nv-online.info
20 СНЕЖНЯ 2016 г.

СУД

## Да адказнасці...

*21 снежня ў Маладзечне пачнецца суд над кіроўцам за смяротны наезд на школьніцу на ўборцы бульбы*

*Судовае разбіральніцтва будзе адкрытым.* Кіроўцу абвінавачваюць у парушэнні Правілаў дарожнага руху, што пацягнула па неасцярожнасці смерць чалавека.

Як паведамляла "Народная Воля" раней, у Маладзечанскім раёне 29 верасня на полі падчас уборкі бульбы кіроўца наехаў на 13-гадовую школьніцу. Ад атрыманых пашкоджанняў дзяўчынка памерла.

ЗДАРЭННЕ

## Нагу адарвала прычэпам ад трактара

*49-гадовы жыхар Шумілінскага раёна, якому 16 снежня трактарам адарвала частку нагі, памёр у бальніцы.*

Сваякі выклікалі "хуткую дапамогу" і каля трох кіламетраў у коўдры неслі пацярпелага насустрач машыне, аднак выратаваць мужчыну не ўдалося. Высвятляюцца абставіны інцыдэнту, прызначана судова-медыцынская экспертыза, трактар канфіскаваны і змешчаны на стаянку, апытваюцца сведкі.

Напярэдадні пра інцыдэнт паведамілі ў ДАІ рэгіёна. Траўму мужчына атрымаў, калі ехаў на трактары для транспарціроўкі дроў. Мужчына дапамагаў сваім пляменнікам на нарыхтоўцы дроў. Участак у лесе за тры кіламетры ад Шуміліна выдзелілі адной з прыватных арганізацый раёна.

Мужчыны ехалі на трактары пасля працоўнага дня. Дзядзька адмовіўся сядаць у кабіну і знаходзіўся ў прычэпе. Нага патрапіла ў прывадны механізм, і яе адарвала.

**Вера ВІР.**

ПРОБЛЕМА!

# Сколько стоит командировка?

*Давно хотелось высказаться по теме, которая касается тех, кто работает в учреждениях разной формы собственности и время от времени отправляется в командировки. Хочу поговорить о командировочных и так называемых суточных. Государство предполагает, что этих денег хватит вам на достойное существование в командировке.*



Сумма суточных время от времени меняется. Еще недавно было 6 белорусских рублей, стало 7. Цитирую документ с сайта Министерства финансов: *«за проживание вне места жительства (пребывания) для покрытия дополнительных расходов – суточные»*. Это если в командировке вы ночуете. А если она однодневная, то есть вечером вы возвращаетесь домой, то получаете 3 рубля 50 копеек в сутки. Опять же цитата: *"при однодневных служебных командировках и командировках в другую местность, находящуюся на незначительном расстоянии от места постоянной работы"*.

Прекрасно понимаю, что работники Министерства финансов, которые устанавливают эти цифры, получают от своего руководства жесткие установки: "Экономим! Максимально экономим!". Но вот любопытно узнать: а сами сотрудники Минфина когда-нибудь ездят в командировки по стране? Или работают исключительно в столице и питаются в кафе министерства по талонам или со скидками? Они знают, сколько стоит еда – полноценный обед в столовой, кафе или даже легкий перекус в близлежащем кафетерии?

Потому как цифры эти взяты с потолка и давным-давно не отражают реальность! Они условны! Это ***якобы*** суточные. Точно так, как бюджетники получают ***якобы*** зарплату, а пенсионеры – ***якобы*** пенсию. Но ведь когда ты приходишь купить продукты, лекарства, оплатить коммуналку, то ***нужны деньги реальные, а не «якобы»***.

Однако вернемся к суточным. Что такое белорусские 3 рубля 50 копеек? Это стоимость чашки кофе (чая) плюс небольшая, очень-очень скромная, булочка. Допустим, человек выехал в однодневную командировку утром. Возможно, позавтракал, а может, и нет. Не у всех есть аппетит, если встал ни свет ни заря. В середине дня хорошо бы все-таки основательно подкрепиться. Но… на три с половиной рубля ты никак не разгонишься.

Что касается командировок многодневных, то тут ситуация еще хуже.

Если мое учреждение находится в Минске, а рабочий день оказался длинным, то я постараюсь пообедать в городе. Знаю близлежащие недорогие кафе, их меню и цены. К примеру, "Лидо" на площади Я.Коласа. Специально оставила себе на память чек от недавнего посещения. Вот он. Котлета из хека – 2,5 рубля. Картофель отварной с укропом – 0,68 (в порции всего 150 граммов, но мне больше и не надо). Салат из капусты белокочанной – 1 рубль, напиток зимний малиновый – 1,84. Очень скромно, как говорится по минимуму. В итоге получилось больше 6 рублей. То есть суточные почти выбраны за одно посещение. Так, извините, командировочные рассчитаны на то, чтобы есть один раз в день или как? Как совместить это с рекомендациями диетологов или терапевтов, что для нормального состояния организма человеку хорошо бы питаться как минимум три раза в сутки? Есть по этому поводу хорошая белорусская поговорка: *"Як пад'ясі, так і папрацуеш!"*

Уточню, что женщине огромные порции не нужны. А мужчина захочет съесть первое, второе и третье. И плюс салат. Какая будет в результате сумма? Уточню, "Лидо" – кафе относительно недорогое. В Минске да и в других городах есть множество заведений общественного питания, где цены намного выше. Фокус в том, что, когда человек приезжает по делам в другой город, у него нет возможности бегать и искать заведения подешевле. Он идет в то, которое ближе к гостинице, то, которое находится в центре города или попалось по пути. Значит, абсолютно зависит от тамошних цен.

Пребывание командировочного в чужом городе часто осложняется тем, что кафе, может, и существует, и оно даже недалеко от гостиницы, но работает… с 12 часов дня. Когда служащий, по идее, должен делом заниматься, а не ждать открытия точки общепита. По пятницам, выходным и праздничным дням, если тебя нечаянно занесет в командировку, вообще полный завал! На дверях кафе и ресторанов можно увидеть объявление: *"Закрыто на спецобслуживание"*. Это значит, кто-то отмечает юбилей, свадьбу, в районе будет мероприятие. Порадуемся за них, но какое веселье командировочному?..

Чувство неуютности и неприкаянности знакомо, наверное, каждому белорусскому командировочному, который по делам попадает в малознакомый город. Может, это делается для того, чтобы в командировке не задерживались, а быстрее мчались домой?

"Не усложняйте жизнь! – может заметить скептик. – Кто-то же в командировку приглашает – пускай и покормит! Не разорится!» Но ситуации бывают разные. Едет, к примеру, журналист статью писать об удивительном человеке или замечательной семье. Да, согласна. В этом нет ничего плохого. Гостеприимство еще никто не отменял. Но если тот же журналист едет разбираться в конфликтной ситуации, то тут лучше не быть обязанным никому из противоборствующих сторон.

Как наш изобретательный народ находит выход из положения? По-разному. Как правило, отправляется в дорогу со своими продуктами. С пакетиками чая, хлебом, салом, сыровяленой или сырокопченой колбасой, печеньем, огурцами. Чтобы можно было перекусить в номере утром или вечером. Главное, чтобы не в сухомятку. Но тут опять возникает проблема.

В глубинке, в небогатых райцентрах, где нет больших или даже средних промышленных предприятий, хватает гостиниц, где в коридоре не увидишь не то что кулер с холодной и горячей водой, в номерах нет даже электрочайников. Поэтому осмотрительный и запасливый командировочный должен взять с собой железную кружку побольше и кипятильник.

Мама дорогая! На дворе XXI век, больше чем полвека назад человек в космос полетел, люди пользуются интернетом, вай-фаем, электронной почтой, вайбером, но кружка с кипятильником по-прежнему актуальны. Цитировать Карла Маркса в последнее время не принято, но как не вспомнить его крылатую фразу: *"в стороне от столбовых дорог мировой цивилизации"*. Какой туризм мы хотим развивать?.. Чтобы путешественники из других стран ехали к нам со своими кипятильниками?! Вот смеху-то будет на весь мир!

Когда тебя интересует какая-то тема, то жизнь сама подбрасывает аргументы. Статья была уже почти написана, как на одном из белорусских порталов прочла любопытную информацию: *«Столичные власти определили нормы расходов на прием и обслуживание иностранных делегаций и отдельных лиц. Лимиты на подобные расходы из бюджета города прописаны в решении Мингорисполкома»*. **Сначала про гостиницы. Далее.** *«Что касается питания, здесь лимит для членов делегации и сопровождающих в день – до 5 базовых (105 рублей)»*.

Замечу: едят-то наши гости в белорусских кафе и ресторанах по белорусским, а не заграничным ценам. Получается, белорус в командировке должен как-то ухитриться поесть за 7 рублей, а заграничный гражданин, наш гость, – за 105 рублей, то есть в 15 раз больше? И в 15 раз лучше? Продолжение цитаты: *«Большую щедрость столичные власти готовы проявить в покупке сувениров и памятных подарков для руководителя (на сумму до 20 базовых величин, или 420 рублей) и остальных членов делегации (до 10 базовых)»*. Может, я чего-то не понимаю, но от сопоставления цифр рождается мысль: или собственных командировочных государство в грош не ставит (мол, никуда вы отсюда не денетесь!), или перед иностранцами власть хочет выглядеть цивилизованно? А может, все одновременно?

Еще один любопытный документ попался мне в процессе подготовки текста. Он называется *«Нормы оплаты командировочных расходов при служебных поездках за границу»*. Находится в открытом доступе на сайте Минфина. Приведу несколько цифр, которые, как известно, вещь очень упрямая. Не будем брать далекую и достаточно дорогую Францию. Если наш чиновник или артист отправляется туда, то суточные составляют 60 евро. Возьмем более близкую Россию. В случае командировки в Москву или Петербург суточные выплачиваются в размере 30 долларов. Напомню, в Беларуси – 3,5. Разница – в 8,5 раза. Да, столица соседнего государства не очень-то дешевый город. Но в 8,5 раза – это не в два, не в три раза. Теперь вам становится ясно, почему наши чиновники так любят, так обожают зарубежные командировки?

Так что кому кипятильник с железной кружкой, а кому и валюта на счет. Интересно было бы узнать: а в соседних странах тоже существуют двойные стандарты? И такой же подход: собственных граждан – унизить, а перед чужими прогнуться, изображая щедрость? Рядовым – мизер, зато чиновникам – раздолье?

**Ксения МИХАЙЛОВСКАЯ.**

ВІНШУЕМ!



Што і казаць, здаецца, толькі ўчора ён рабіў першыя крокі на паэтычнай ніве, а сёння **Яўгену ХВАЛЕЮ** ўжо 70 гадоў.

Яўген Іванавіч ХВАЛЕЙ нарадзіўся 1 студзеня 1947 года ў вёсцы Белькаўшчына Стаўбцоўскага раёна. Скончыў Мікалаеўшчынскую СШ імя Якуба Коласа. У 1971 годзе – філфак БДУ.

Працаваў у Стаўбцоўскай райгазеце "Прамень", на Беларускім радыё і тэлебачанні, у выдавецтвах "Народная асвета", "Юнацтва", "Мастацкая літаратура", часопісах "Крыніца", "Родная прырода", газеце "Літаратура і мастацтва".

Аўтар паэтычных кніг "Ярына", "Прычасце", "Зялёны прамень аеру", "Квадры памяці", "Прыстань вяцінаў", "Дзе хвалі срэбна-залатыя", прозы – апавесцяў "Пацукі", "Таямнічы дзённік", "Прынцэса тусоўкі" (пяць выданняў), "Вяселле на Кіпры", "Анжэла з Быхава", "Не пакідай мяне, Аля", рамана-эсэ "Серабрыстыя таполі", трох зборнікаў вершаваных казак для дзяцей.

Лаўрэат Літаратурнай прэміі "Залаты Купідон".

Намінант Нацыянальнай прэміі Рэспублікі Беларусь 2016 года.

**Яўген ХВАЛЕЙ**

## Нёман

*Прыйду на берагі*
*Тваё крутыя,*
*Дубоў дзе караніцца род,*
*Дзе хвалі срэбна-залатыя*
*Калышуць памяць,*
*Як чарот.*

*Рака мая,*
*Праз дні мае віротныя*
*Бяжыш –*
*Твой разумею спех…*
*Ды недзе там,*
*За выдмай, паваротам,*
*Прыпыніш, як і я,*
*На хвілю бег.*

*Нам ёсць над чым падумаць…*
*Бо стагоддзі*
*Плылі табой,*
*Нібы варагі ў грэкі.*
*Легенды, былі у маім народзе*
*Жывуць часцей*
*Там, дзе крынічаць рэкі…*

*Ты рушыш зноў за даляглядным часам,*
*Аддаўшы плынь гарэзу-быстраку.*
*І доўга буду я*
*З маімі днямі разам*
*Рукой махаць,*
*Праводзячы раку…*

## Асліная пенсія

***(Байка)***

*Пенсію далі Аслу –*
*Быў ён цягавіты ў працы.*
*(Хоць якая там падачка –*
*"Няхай не затопча качка!")*
*І трэба ж тут было Казлу*
*З Аслом у гэты час спатkацца,*
*А яшчэ – Каню, Быку,*
*Барану з Авечкай.*
*І заселі ўсе ў шынку*
*За стрэчу разгавецца.*
*– Мэ-мэ… – мычыць Казёл,*
*– Го-го! – іржэ Буланы,*
*– Ня-хай… жы-ве… Асёл! –*
*Баран бляе ўжо п'яны.*
*– Я з ім, Аслом, магла б жыць вечна, –*
*Прабэкала Авечка.*
*Хваліў Асла і Бык,*
*Ажно хадзіў кадык.*

*За сталом сядзелі доўга,*
*З шынка цягнулі ледзьве ногі.*

*Назаўтра стрэў Казёл Асла:*
*– Як справы, друг?*
*Упаў, здаецца мне, твой дух,*
*А ці не ўджаліла аса?*
*– Асліха не дала аўса:*
*"Ідзі ў шынок – і там харчуйся сам".*
*– Х-м-м… Прабач, браток,*
*Хапіла пенсіі тваёй*
*Адно нам на шынок, –*
*Сказаў Казёл*
*І скіраваў да блізкіх сёл.*

IN MEMORIAM

# Настаўнік з вялікай літары

*Не стала Уладзіміра Дзіско, выдатніка адукацыі Рэспублікі Беларусь, які ўсё сваё жыццё прысвяціў служэнню Беларускаму Слову.*

Калі на пачатку 1990-х гадоў у мяне і маіх калег, дэпутатаў Вярхоўнага Савета 12-га склікання, з'явілася магчымасць паспрыяць адраджэнню беларускай школы ў нашай краіне, наш разлік быў просты. У БССР тады працавала больш за дзесяць тысяч настаўнікаў беларускай мовы і літаратуры. Калі б кожны з іх актыўна ўключыўся ў беларусізацыю нашай адукацыі, усю праз тры-чатыры гады выніклі гэтага працэсу былі б адчувальныя. На жаль, такіх педагогаў аказалася выразная меншасць: сярод выпускнікоў беларускіх аддзяленняў філалагічных факультэтаў універсітэтаў людзей, не прыхільных да беларушчыны, я асабіста сустракаў нават больш, чым сярод выпускнікоў рускіх аддзяленняў. На шчасце, у нашай сістэме адукацыі былі ўсё ж такія людзі, як Уладзімір Антонавіч Дзіско.

Нарадзіўся будучы педагог 6 верасня 1936 года ў вёсцы Брольнікі Навагрудскага ваяводства тагачаснай Другой Рэчы Паспалітай. У гады гітлераўскай акупацыі хлопчыку Валодзю давялося перажыць нямала: расстрэл мясцовых рамеснікаў-яўрэяў, адпраўку ў Нямеччыну на прымусовыя працы старэйшых аднавяскоўцаў, сярод якіх была і яго стрыечная сястра Вольга… Толькі цуд выратаваў Валодзю і яго бацьку Антона Аляксандравіча, калі аднаго разу карнікі ўварваліся ў вёску, шукаючы партызан, сярод якіх былі і іх сваякі. Валодзева маці была арыштавана, і толькі высілкамі яе старэйшай сястры (якая аддала ў якасці хабару свой заручальны пярсцёнак навагрудскаму каменданту) яе ўдалося вызваліць. Каб узнавіць разрабаваную фашыстамі гаспадарку, сям'і Дзіско давялося звяртацца па дапамогу да спагадлівых суседзяў.

У школу Валодзя пайшоў перарасткам, і ўсё жыццё з удзячнасцю ўзгадваў сваіх першых настаўнікаў – Аляксандра Лазарэвіча, Ганну Кіклевіч, а таксама Валянціну Лістападаву, якая, прыехаўшы з Расіі, за некалькі месяцаў засвоіла беларускую мову і паспяхова выкладала на ёй… Сам Уладзімір Дзіско вучыўся на "выдатна" і ў 1952 годзе абраў прафесію педагога – паступіў у Навагрудкае педагагічнае вучылішча, пасля заканчэння якога падаў дакументы ў Мінскі педінстытут імя Максіма Горкага. Тут сярод яго сяброў-аднакашнікаў былі не абы-якія асобы – напрыклад, будучы гісторык і краязнаўца Анатоль Валахановіч (які, на жаль, таксама зусім нядаўна пайшоў з жыцця) або будучы паэт Раман Тармола-Мірскі...





З 1961 года і да пачатку цяжкай хваробы ў студзені гэтага года, Уладзімір Дзіско прысвяціў сябе працы настаўніка беларускай мовы і літаратуры, педагога-метадыста і арганізатара. З захапленнем яго педагагічны талент узгадвалі і ўзгадваюць шматлікія выпускнікі Аршанскага педагагічнага каледжа, Беларускага гуманітарнага ліцэя. Колішняя вучаніца апошняга, цяпер выкладчыца міжнароднага каледжа ў баснійскім Мостары Настасся Рудак пісала: "Уладзімір Антонавіч быў першы настаўнік, які пастаянна падтрымліваў мае памкненні дасканала засвоіць мову не толькі сваімі неацэннымі высілкамі як педагог, але і ўласным прыкладам у любых жыццёвых сітуацыях. Таму пасля двух гадоў навучання ў ліцэі, падчас якіх, дарэчы, я даведалася больш, чым за ўсе папярэднія школьныя гады, я атрымала найвышэйшую адзнаку…"

У 1980 годзе лёс Уладзіміра Дзіско крута памяняўся: ён пераехаў у Мінск, дзе яго запрасілі працаваць у Рэспубліканскі вучэбна-метадычны кабінет пры Міністэрстве адукацыі БССР. Цяжка нават пералічыць, колькі ўсяго зрабіў ён асабіста, каб падтрымаць творча працуючых настаўнікаў роднай мовы і літаратуры, колькі разнастайных метадычных напрацовак ён падрыхтаваў разам са сваімі калегамі! Уладзімір Антонавіч шчырай душой падтрымаў абвяшчэнне незалежнасці краіны, нават уступіў у Беларускі Народны Фронт. Першае пакаленне падручнікаў па беларускай літаратуры і мове ў Рэспубліцы Беларусь выходзіла пад яго непасрэднай апекай, дый сам ён удзельнічаў у падрыхтоўцы дапаможнікаў па беларускай літаратуры, больш за дзясятка зборнікаў экзаменацыйных матэрыялаў для 9-х і 11-х класаў. На працягу 27 (!) гадоў Уладзімір Дзіско быў нязменным сакратаром рэспубліканскіх алімпіяд па беларускай мове для школьнікаў.

У 1997 годзе пасля чарговай змены кіраўніцтва ў Інстытуце адукацыі з ініцыятывы новай улады Уладзімір Дзіско быў звольнены з тагачаснага Навукова-метадычнага цэнтра вучэбнай кнігі і сродкаў навучання. Лёс прывёў яго ў Беларускі гуманітарны ліцэй, дзе ён стаў выкладчыкам беларускай мовы. Усе гады працы ў ліцэі Уладзімір Антонавіч быў узорам прафесіяналізму і бездакорнай адказнасці: немагчыма было сабе ўявіць, каб ён нешта своечасова не выканаў, недзе ў нечым недапрацаваў. Калі ліцэй намаганнямі цяперашняй улады быў пазбаўлены афіцыйнага статусу, ён застаўся верны ліцэістам і іх бацькам: рэгулярна, нягледзячы на немалыя гады, праблемы з сэрцам, дабіраўся на заняткі і – аніколі не спазняўся!

Калі праз год пасля афіцыйнага закрыцця ліцэя ў Мінск прыехаў здымаць фільм (які атрымаў потым назву "Партызанская школа") беластоцкі тэлежурналіст Юрый Каліна, ён зрабіў Уладзіміра Дзіско фактычна адным з самых галоўных герояў гэтага фільма…

Варта адзначыць яго надзвычайную ўважлівасць і далікатнасць. Не было выпадку, каб ён забыўся павіншаваць каго-небудзь з калег з днём нараджэння, з іншымі важнымі падзеямі ў жыцці… Звычайна Уладзімір Антонавіч пісаў вершаваныя віншаванні. Наогул, усё сваё жыццё ён памалу пісаў – і паэзію, і прозу. Да васьмідзесяцігоддзя з дня нараджэння сёлета калегі-педагогі ў складчыну прафінансавалі выданне выбраных твораў Уладзіміра Дзіско, што – з прадмовай вышэйзгаданага Анатоля Валахановіча – выйшлі ў адным з мінскіх прыватных выдавецтваў пад назвай "Хвіліны радасці і смутку".

На пачатку гэтага года, калі Уладзімір Дзіско ўжо не змог далей праводзіць заняткі ў ліцэі (страціў магчымасць размаўляць), ягоны фактычны педагагічны стаж складаў 63 з паловай гады! На мой погляд, гэты факт заслугоўвае ўнясення ў любыя кнігі рэкордаў, але галоўнае іншае: жыццёвы шлях Уладзіміра Антонавіча Дзіско – прыклад таго, як можна, не прыцягваючы залішняй увагі да сябе, рабіць справу свайго жыцця.

Уладзімір Дзіско ад самага пачатку і да апошніх дзён свайго жыцця быў нязменным падпісчыкам "Народнай Волі". Калі мы з калегамі завітвалі да яго, ужо моцна хворага, дадому, ён увесь час паказваў мне і мае публікацыі, і іншыя артыкулы, якія прыцягнулі яго асаблівую ўвагу ў газеце. Уладзімір Дзіско вельмі перажываў за тое, што адбываецца ў краіне; на жаль, нямала здароўя адабралі ў яго антыбеларускія дзеянні тых, хто стаіць ва ўладзе…

Застаецца верыць, што такія людзі, як ён, усё ж такі пражылі сваё жыццё недарма і што вучні і вучні вучняў гэтага сціплага працаўніка на ніве беларускай справы яшчэ скажуць сваё слова ў будучай Беларусі.

**Лявон БАРШЧЭЎСКІ.**

Народная Воля http://www.nv-online.info 20 СНЕЖНЯ 2016 г.

СОБЫТИЕ

# В Толедо, у Эль Греко

## Белорусские иконы XVII–XVIII веков продолжают триумфальное шествие по Европе

Это не пафосная фраза. Это реальность. Национальный художественный музей Беларуси проводит уже второй проект – международный, значительный, резонансный, – которым в Год культуры действительно может гордиться вся страна. Какими еще событиями такого высокого уровня мы можем похвастаться? Разве что маэстро Александр Анисимов вместе с Государственным академическим симфоническим оркестром выезжал на полноценные гастроли в Эстонию и – неординарное событие! – в Москву, где коллектив блестяще выступил в Концертном зале имени Чайковского.




Предположу, что музею выехать со своими сокровищами все-таки гораздо сложнее, чем симфоническому оркестру. Но огромные усилия не напрасны: музейщики показывают белорусскую иконопись и пропагандируют современную Беларусь. Только несколько месяцев назад, летом, закончилась выставка иконописи в музее Ватикана, а сейчас эти бесценные экспонаты уже в Испании. И где – в сердце королевства, в древнем Толедо, в музее великого Эль Греко. За год его посещает 240.000 человек. (Не в обиду, а просто для сравнения: самый посещаемый музей Минска – истории Великой Отечественной войны – принимает в год всего 30.000 человек.)

Личное присутствие на открытии вернисажа всегда дает возможность почувствовать атмосферу в нюансах. Например, поначалу меня не хотели в музей пропускать. Мероприятие… А вы аккредитованы? Да… Здесь с этим более чем строго. И вообще, людской поток контролируется всюду вежливо, но очень жестко. И это правильно, учитывая, как неспокойно сейчас в Европе. Так что на полицейских с автоматами наперевес я смотрела с уважением – они заботились и о моей безопасности тоже.

Конечно, на пресс-конференцию я попала. Было неожиданно и приятно, что белорусская выставка привлекла внимание многих журналистов из Мадрида. Приехало испанское телевидение. А вечером на официальное открытие и белорусское тоже – канал СТВ. Кстати, замечу: музей Эль Греко нечасто открывает свои двери для привозных выставок из-за рубежа. Так что выставка в Толедо икон из Национального художественного музея – неординарное событие и для испанцев.

Директор Национального художественного музея Республики Беларусь Владимир Иванович Прокопцов со своей львиной гривой возвышался надо всеми, как античная колонна. В последние – ответственные, но очень радостные перед открытием выставки – мгновения ему, может быть, даже не совсем верилось, что проект состоялся. Сколько людей пришлось задействовать! Министерство культуры, Министерство иностранных дел, Посольство Беларуси во Франции и Испании. А начиналось все, как он сам признался, со случайной мысли. Я усмехнулась: у энергичных, талантливых людей то яблоко на голову случайно упадет, после чего открывается всемирный закон тяготения, то вот купит человек простой карандаш…

Как-то, оказавшись в Толедо на экскурсии, Владимир Иванович Прокопцов действительно купил в местном киоске за один евро карандаш и записал в блокноте как бы между прочим, на память: «Привезти белорусскую иконопись в музей Эль Греко». Прошло два года. И мечта директора сбылась! Карандашик помог? То-то же. Как бы то ни было, белорусские лики висят теперь рядом с картинами великого испанского живописца, и можно сравнить, как одних и тех же святых апостолов видел человек эпохи Возрождения и безвестные белорусские иконописцы, которые жили на полтора столетия позже. И понять, что художественные принципы византийского (восточного) и греческого (западного) письма исходят из одного корня.

А Владимир Прокопцов уже думает о будущем. Со своим испанским коллегой господином Хуаном Кастро они обдумывают ответный визит музея Эль Греко. Это будет грандиозное событие в истории музейного Минска! Я посоветовала Владимиру Ивановичу срочно бежать и покупать ручку, да подороже: чтобы записать очередную мечту. Для такого проекта – картины Эль Греко в Минске – карандашиком, наверное, уже не обойдешься.

**Елена МОЛОЧКО.**
*Толедо, Испания.*

ПАМЯЦЬ

## Максім БАГДАНОВІЧ:

# «Беларусь, твой народ дачакаецца Залацістага, яснага дня…»

*Беларусь працягвае адзначаць 125-годдзе з дня нараджэння выбітнага беларускага паэта, класіка і аднаго з заснавальнікаў беларускай літаратуры, грамадскага дзеяча Максіма Багдановіча.*

*Пражыў Багдановіч усяго 25 гадоў, але за сваё кароткае жыццё здолеў зрабіць вялікі ўнёсак у развіццё беларускай культуры і стварыць падмурак літаратурнай беларускай мовы.*



### Пагоня

Толькі ў сэрцы трывожным пачую
За краіну радзімую жах, –
Ўспомню Вострую Браму сьвятую
І ваякаў па грозных канях.

Ў белай пене праносяцца коні, –
Рвуцца, мкнуцца і цяжка хрыпяць...
Старадаўняй Літоўскай Пагоні
Не разьбіць, не спыніць, не стрымаць.

У бязьмерную даль вы ляціце,
А за вамі, прад вамі – гады.
Вы за кім у пагоню сьпяшыце?
Дзе шляхі вашы йдуць і куды?

Мо яны, Беларусь, панясьліся
За тваімі дзяцьмі уздагон,
Што забылі цябе, адракліся,
Прадалі і аддалі ў палон?

Бійце ў сэрцы іх – бійце мячамі,
Не давайце чужынцамі быць!
Хай пачуюць, як сэрца начамі
Аб радзімай старонцы баліць...

Маці родная, Маці-Краіна!
Не усьцішыцца гэтакі боль...
Ты прабач, Ты прымі свайго сына,
За Цябе яму ўмерці дазволь!..

Ўсё лятуць і лятуць тыя коні,
Срэбнай збруяй далёка грымяць...
Старадаўняй Літоўскай Пагоні
Не разьбіць, не спыніць, не стрымаць.



### Санет

Замёрзла ноччу шпаркая крыніца;
Твая пара, зімовая нуда!
Цяпер няма ўжо руху ні сляда,
І нават зверху слоем снег лажыцца.
Ды ўсё дармо, бо там, пад ім, струіцца
Магутная, жывучая вада.
Чакай! Яе йшчэ прыйдзе чарада!
Здалее хваляў хор на вольны сьвет прабіцца.
Прыклаў я гэты сімвал да сябе,
Схіліўшыся ў надсільнай барацьбе,
І разгадаў прыроды роднай словы.
Як – прамаўчу, бо кожны з вас – паэт.
Рассейце ж самі лёгкі змрок прамовы,
Сваёй душы туды праліце сьвет!

### Беларусь, твой народ дачакаецца…

Беларусь, твой народ дачакаецца
Залацістага, яснага дня.
Паглядзі, як усход разгараецца,
Сколькі ў хмарках залётных агня....
***
Досі ўжо, браты, чужынцам мы служылі,
Досі ўжо пашаны ім прыдбалі;
Не сваю – чужую долю баранілі,
Пад чужымі сцягамі ўміралі.
***
Ты не згаснеш, ясная заранчка,
Ты яшчэ асьвеціш родны край.
Беларусь мая! Краіна-бранaчка!
Ўстань,свабодны шлях сабе шукай.

### Слуцкія ткачыхі

Ад родных ніў, ад роднай хаты
У панскі двор дзеля красы
Яны, бяздольныя, узяты
Ткаць залатыя паясы.
І цягам доўгія часіны,
Дзявочыя забыўшы сны,
Свае шырокія тканіны
На лад персідскі ткуць яны.
А за сьцяной сьмяецца поле,
Зіяе неба з-за акна, –
І думкі мкнуцца мімаволі
Туды, дзе расьцвіла вясна;
Дзе блішча збожжа ў яснай далі,
Сінеюць міла васількі,
Халодным срэбрам зззяюць хвалі
Між гор ліючайся ракі;
Цямнее край зубчаты бора...
І тчэ, забыўшыся, рука,
Заміж персідскага узора,
Цьвяток радзімы васілька.

ВАС ЦІКАВІЦЬ...

### Ці будзе «Трайпл» аднаўляць дом Багдановіча?

*Не так даўно недзе краем вуха пачуў, быццам кампанія "Трайпл" паабяцала аднавіць дом Багдановіча ў Мінску. Ці сапраўды гэта так?*

***Валерый ПЯТРОВІЧ, Мінск.***

Сапраўды, некаторыя сайты на пачатку снежня паведамілі такую навіну. Але сёння ў кампаніі "Трайпл" кажуць, што домам Багдановіча яны займацца не будуць і ніякіх праектаў з гэтай нагоды не плануецца. "Упершыню пра гэта чую, шчыра кажучы", – сказаў Народнай Волі" дырэктар службы заказчыка "Трайпл" Дзмітрый Сяргееў.

Варта адзначыць, што аднаўленне дома Багдановіча – далёка не новы праект. Ён быў распрацаваны амаль 20 год таму, ідэя ж гучала аж з 1980 гадоў.

Дом меркавалася аднавіць ля вуліцы Аляксандраўскай на Траецкай гары да 120-годдзя паэта. Але жыхары чатырох дамоў выступілі на тагачасным грамадскім абмеркаванні супраць праекта. (Замест яго «Трайпл» збудаваў у тым раёне так званы «Дом Чыжа».)

Максім Багдановіч жыў у доме на Траецкай гары нядоўга, крыху больш за паўгода, амаль усё жыццё ён правёў далёка ад малой радзімы. У доме на першым паверсе была школа (у аднаўленым доме таксама планавалі адкрыць школу ці цэнтр дзіцячай творчасці), на другім – кватэры настаўнікаў, у тым ліку бацькі Багдановіча, які тады выконваў абавязкі загадчыка Першай мінскай прыходскай вучэльні. Частка дома згарэла ў час Другой сусветнай вайны, а што не згарэла – разбурылі ў 1960-я гады.

У Мінску цяпер ёсць «Беларуская хатка» – філіял музея Багдановіча ў доме, дзе паэт жыў у 25 год і дзе напісаў у тым ліку верш «Пагоня». Асноўны будынак музея – у Траецкім прадмесці. Недалёка ад музея, па левы бок Опернага тэатра, стаіць помнік Багдановічу.

ПРЭМ'ЕРА!

# Школа падаткаплацельшчыкаў Мікалая Пінігіна

## У Купалаўскім тэатры распавядуць, як падкласці свінню ўраду.

Новая пастаноўка **Мікалая Пінігіна** – камедыя "Школа падаткаплацельшчыкаў" – распавядзе гледачам, як абсалютна законным чынам можна не толькі ўхіліцца ад выплаты падаткаў, але і стаць арандатарам сімвала Францыі – Эйфелевай вежы.

Першыя паказы адбудуцца 28, 29 і 31 студзеня 2017 года.

Драматург Луі Вернэй і акцёр Жорж Бэр напісалі п'есу ў 1934 годзе, у часы эканамічнага крызісу, калі наступствы Вялікай дэпрэсіі ахапілі не толькі Францыю, але і ўвесь свет. Цяжкая фінансавая сітуацыя: хваля банкруцтваў, павышэнне ўзроўню беспрацоўя і адначасовае паніжэнне заробкаў і пенсій, а таксама маштабныя пратэсты супраць жорсткай падатковай палітыкі – менавіта ў такім невясёлым кантэксце была напісана і адразу ж пастаўлена "Школа падаткаплацельшчыкаў".

Пастаноўкі прайшлі на ўсіх галоўных сцэнах краін, ахопленых крызісам. Цікава, што ўжо ў 1935 годзе "падатковую" камедыю паставілі і ў Савецкім Саюзе, на сцэне маскоўскага Тэатра-студыі Юрыя Завадскага (у галоўных ролях – Расціслаў Плят і Вера Марэцкая).

Суровы кантэкст не паўплываў на яскравасць вобразаў і філіграннасць тэксту камедыі. Дзеянне разгортваецца імкліва. Малады авантурыст Гастон Вальцье, зяць занадта дбайнага дырэктара дэпартамента падаткаў, вырашае ўрэшце пачаць зарабляць на жыццё сабе і сваёй лёгкадумнай жонцы. Яго думкі лагічныя: *"Усякая прафесія цяжкая, бо трэба прымушаць плаціць людзей, якім няма чым плаціць. Трэба знайсці такую працу, якая зберагала б кліентам грошы"*. План вымалёўваецца ідэальны: за сціплы працэнт навучыць людзей ухіляцца ад выплаты падаткаў, або, кажучы прасцей: *"Падкласці свінню ўраду, а галоўнае – уласнаму цесцю"*.

Гастон Вальцье – чалавек дзеяння, таму поспех школы ашаламляльны, ад кліентаў няма адбою, а дзяржаўная казна пад пагрозай.

*"Галоўны герой – своеасаблівы Астап Бэндэр*, – гаворыць рэжысёр спектакля *Мікалай Пінігін. – Вельмі абаяльны чалавек, які дзейсна, весела і радасна змяняе пануры і дэпрэсіўны свет вакол сябе. У нашы часы гэта надзвычай істотна"*.

Над сцэнаграфіяй для купалаўскай пастаноўкі працуе адзін з самых вядомых канцэптуальных мастакоў Беларусі **Руслан Вашкевіч**. Касцюмамі займаецца **Алёна Ігруша.** Бліскучы французскі тэкст па-беларуску пераўвасобіў знакаміты паэт і перакладчык **Андрэй Хадановіч**, арганічна падкрэсліўшы іранічную афарыстычнасць дыялогаў і захаваўшы лёгкасць стылю.

У пастаноўцы заняты народныя артысты Беларусі **Віктар Манаеў** і **Мікалай Кірычэнка,** заслужаныя артысты **Аляксандр Падабед, Ігар Сігоў,** артысты **Павел Харланчук-Южакоў, Валянціна Гарцуева, Андрэй Дробыш, Ігар Пятроў, Сяргей Рудэня, Вікторыя Чаўлытка, Ганна Хітрык** і іншыя.

ПА ЗАСЛУГАХ



# Андрэй Праневіч узнагароджаны ордэнам Айчыны III ступені

*На мінулых Паралімпійскіх гульнях у Рыа-дэ-Жанэйра фехтавальшчык з Полацка заваяваў залаты медаль.*

*– Вядома, было прыемна даведацца, што падпісаны ўказ аб узнагароджанні спартсменаў і іх трэнераў,* – сказаў «Народнай Волі» Андрэй Праневіч. *– Але я больш думаю пра будучы чэмпіянат свету і падрыхтоўку да яго. Эйфарыя ад перамогі ў Бразіліі ўжо прайшла ...*

Траўму пазваночніка Андрэй атрымаў у 10 гадоў. З'яўляецца майстрам спорту міжнароднага класа па фехтаванні на інвалідных калясках. Узнагароджаны ордэнам Айчыны III ступені.

**Раман ВАСІЛЬЕЎ.**

ПРОЩАЛЬНЫЕ СЛОВА

# Уснула навсегда…

## В субботу, 17 декабря, в Минске похоронили известную белорусскую модель, бизнес-леди Наталью МАКЕЙ. Она отравилась газом в загородном доме. Трагедия случалась утром 15 декабря.

За день до этого Наталья была в Кракове. Она любила фотографировать и фотографироваться, поэтому разместила в социальной сети пару жизнерадостных фото из поездки. Приехав из Польши, позвонила маме, сказала, что уже в Минске, и заодно пожаловалась, что не может включить газовый котел.

*«Я ей позвонила около 11 часов, она ответила, что еще спит*, – рассказала Людмила Федоровна Яковлева-Макей. *– Через некоторое время начал звонить Стасик, муж Наташи. Спрашивал, не к отцу ли в больницу поехала Наташа, потому что он не может дозвониться до нее ни по одному телефону. Я еще подумала: может, поругались да она трубку не берет. Потом сама стала ее набирать. Мы позвонили другу Косте – у него были ключи от дома, и поехали проверять, может, что и вправду случилось. А она уже без чувств была. Я ей искусственное дыхание начала делать, но ничего уже не помогло...*

*Мы приехали где-то в пятом часу. Нам сказали, что к этому времени она уже около двух часов была мертва… Уснула и больше не проснулась….*

*Сотрудники МЧС сказали, что везде зашкаливал уровень газа…»*

Наталье было всего 43 года.





Проверку по факту ее смерти проводит Следственный комитет.

Смерть Натальи Макей вызвала большой резонанс не только среди ее знакомых.

В социальных сетях несколько дней обсуждали эту трагедию: *«У нее вся жизнь была впереди и такие светлые планы…». «Наталья всегда такая легкая воздушная... Такие не умирают... Она же фея...», «Почему красивые и талантливые женщины уходят так рано?», «Она много лет отдала модельному бизнесу, никакая грязь к ней не прилипала, она была очень светлым человеком…»*

*«Строишь планы, общаешься, решаешь вопросы, нервничаешь, надеешься на будущее и… забываешь о главном*, – говорит заслуженная артистка Беларуси **Алена Ланская**. – *Что жизнь слишком коротка, чтобы тратить ее на пустое. Сегодня ты есть, а завтра…»*

*«Цените каждый день, каждый час, каждую минуту, проведенную в кругу близких людей*, – откликнулась на известие о трагедии певица **Искуи Абалян.** – *Не давайте повода для огорчения, не обижайте, говорите больше теплых слов... Чтобы когда-нибудь не пожалеть о недосказанности, о недолюбленности и еще о многих вещах…».*

Муж Натальи Макей **Станислав Ляликов** вечером после похорон Натальи на своей странице в «Фейсбуке» разместил их совместное красивое фото. *«Прощай»*, – написал он…

**Марина КОКТЫШ.**

Народная Воля http://www.nv-online.info
20 СНЕЖНЯ 2016 г.

ПА-ЗА ГУЛЬНЕЙ

Алесь СІВЫ



# Гіблае месца

Два гады таму ляцеў з Кіева ў Мінск у адным самалёце з былым іграком мінскага і кіеўскага “Дынама” Аляксандрам Хацкевічам. Ведаем адзін аднаго яшчэ з 1990-х, таму ўспомнілі мінулае, абмеркавалі сучаснае. Аказалася, што нагода для наведвання роднага горада (а апошнім часам Аляксандр жыў і працаваў з сям’ёй ва ўкраінскай сталіцы) дастаткова сур’ёзная – запрашэнне на пасаду галоўнага трэнера зборнай Беларусі па футболе.

– Гіблае месца, – шчыра выказаў я тады сваё меркаванне.

– Час пакажа, – па-філасофску адказаў Хацкевіч.

Час паказаў… 4 снежня 2014 года чатырохразовы чэмпіён Беларусі і сяміразовы чэмпіён Украіны Аляксандр Хацкевіч быў прызначаны кіраваць нацыянальнай камандай, а 6 снежня 2016 года ён скасаваў кантракт з федэрацыяй, якая з-за адсутнасці выніку вырашыла зменшыць трэнеру заробак, хаця кантракт быў разлічаны да лістапада 2017 года. Хацкевіч з’ехаў назад у Кіеў, а ў тэлефоннай размове паведаміў, што абмяркоўваць сваю адстаўку ў яго жадання няма.

Дарэчы, заўважыў, што ў беларускім футболе ўжо стала нацыянальнай традыцыяй шпурляць камяні ў спіны трэнераў зборнай, якія сыходзяць у адстаўку. Пры гэтым крытыкаў і “аналітыкаў” знаходзіцца столькі, што застаецца толькі здагадвацца: чаму гэтыя людзі яшчэ не на стаўцы ў Федэрацыі футбола? І чаму з дапамогай іх слушных парад зборная яшчэ не круціць вушы ў фінале чэмпіянату Еўропы якім-небудзь немцам ці партугальцам?

У 2013 годзе ў “Народную Волю” на “Прамую лінію” прыйшоў на той час дзеючы настаўнік нацыянальнай каманды Георгій Кандрацьеў. Патэлефанаваў балельшчык з Магілёва: *“Юрыя Курненіна, пад кіраўніцтвам якога на чэмпіянаце Еўропы няўдала выступіла “маладзёжка”, у літаральным сэнсе зацкавалі да смерці. Георгій Пятровіч, навошта вы пагадзіліся ўзначаліць зборную? Рана ці позна, але і вас пачнуць дзяўбці…”*

Кандрацьеў тады адказаў так: *“Пасля матча з іспанцамі мяне таксама пачалі цкаваць. Менавіта цкаваць, а не крытыкаваць. А чаму згадзіўся ўзначаліць зборную? Таму што верыў: атрымаецца стварыць моцную каманду”.*

Калі амаль праз год Кандрацьева папрасілі “на выхад”, той сказаў: маўляў, на сённяшні момант майстэрства беларускіх футбалістаў адпавядае таму месцу, якое яны займаюць у футбольным свеце. Божа, што тут пачалося! Калі на форумах чытаў “аналітыку” футбольных “спецыялістаў”, часам складвалася ўражанне, што гэта, прабачце, выпускны баль псіхпацыентаў “Навінак”. Столькі было нянавісці, неадэкватнасці!

Пасля Кандрацьева прыйшоў Хацкевіч. Здаецца, усіх задавальняў. Футбаліст, які яшчэ і сам не так даўно гуляў у складзе зборнай і ведаў усю “кухню” знутры. Чалавек, які рубіў праўду, не зважаючы на пасады. Трэнер, які, як і Кандрацьеў, марыў стварыць моцную каманду. Не атрымалася. Але ў каго атрымалася? Назавіце мне гэтага шчасліўчыка. Да слова, калегі падлічылі, што зборная пад кіраўніцтвам Хацкевіча была найбольш стандартнай з усіх каманд за 25-гадовую гісторыю. Беларуская каманда ў сярэднім выйграе тры матчы з дзесяці, яшчэ ў трох гуляе ўнічыю і чатыры прайграе. І менавіта такі вынік у афіцыйных сустрэчах дэманстравала каманда пры Аляксандру Хацкевічу. Тады пра якое “невыкананне задачы” ідзе гаворка? Датэрмінова павінны былі выйсці з групы ў фінальную частку чэмпіянату свету? Апусціцеся з нябёс на зямлю! Пасля сваёй адстаўкі Хацкевіч павінен быў сказаць тыя самыя словы, што ў свой час сказаў Кандрацьеў: “На сённяшні момант майстэрства беларускіх футбалістаў адпавядае таму месцу, якое яны займаюць у футбольным свеце”. Але Аляксандр ціха сабраў рэчы і з’ехаў, вырашыўшы сваімі каментарыямі не падліваць алею ў агонь. Маўляў, далей – без мяне.

А зараз Федэрацыя чакае чарговага кандыдата на гэтае гіблае месца. За 240 тысяч долараў у год, безумоўна, знойдуць. Праўда, зраблю асцярожны прагноз: гады праз два вынікі зборнай будуць такія ж, як і сёння, а чарговага трэнера зноў папруць. Праўда, не разумею аднаго: калі няма розніцы, навошта плаціць такія грошы?

**Алесь СІВЫ.**

БИАТЛОН

# Этап Кубка мира пройдет в Беларуси?

*«Раубичи» могут принять этап престижной биатлонной гонки, если эти соревнования отберут у российской Тюмени.*

В известном докладе Макларена о допинге в российском спорте фигурируют несколько десятков биатлонистов из России. Глава Международного союза биатлонистов **Андерс Бессеберг** заявил, что у организации есть доказательства вины россиян в допинговых махинациях. Ранее лидер мирового биатлона **Мартен Фуркад** пригрозил Союзу бойкотом соревнований, если все виновные не будут наказаны.

Кстати, по некоторой информации, «Раубичи» могут принять этап Кубка мира-2016/17, если эти соревнования отберут у российской Тюмени. Международный союз биатлонистов составил список из возможных кандидатов на замену Тюмени, и в нем фигурирует также белорусский биатлонный комплекс.

Кстати, в редакцию обратились любители биатлона с просьбой напечатать календарь соревнований на этот сезон. Идем навстречу пожеланиям…

***4-Й ЭТАП КУБКА МИРА ПО БИАТЛОНУ, ОБЕРХОФ (ГЕРМАНИЯ) (2–8 ЯНВАРЯ 2017 Г.)***

***5 января*** *– спринт, мужчины;*
***6 января*** *– спринт, женщины;*
***7 января*** *– гонка преследования, мужчины;*
***7 января*** *– гонка преследования, женщины;*
***8 января*** *– масс-старт, мужчины;*
***8 января*** *– масс-старт, женщины.*

***5-Й ЭТАП КУБКА МИРА, РУПОЛЬДИНГ (ГЕРМАНИЯ) (10–15 ЯНВАРЯ)***

***11 января –*** *эстафета, мужчины;*
***12 января*** *– эстафета, женщины;*
***13 января*** *– спринт, мужчины;*
***14 января*** *– спринт, женщины;*
***15 января*** *– гонка преследования, мужчины;*
***15 января*** *– гонка преследования, женщины.*

***ЧЕМПИОНАТ ЕВРОПЫ ПО БИАТЛОНУ, ПОЛЬША (23–31 ЯНВАРЯ)***

***25 января*** *– индивидуальная гонка, мужчины;*
***25 января*** *– индивидуальная гонка, женщины;*
***27 января*** *– спринт, мужчины;*
***27 января*** *– спринт, женщины;*
***28 января*** *– гонка преследования, мужчины;*
***28 января*** *– гонка преследования, женщины;*
***29 января*** *– смешанная эстафета (супермикст);*
***29 января*** *– смешанная эстафета.*

***ЧЕМПИОНАТ МИРА ПО БИАТЛОНУ, ХОХФИЛЬЦЕН (АВСТРИЯ) (8–19 ФЕВРАЛЯ)***

***9 февраля*** *– смешанная эстафета;*
***10 февраля*** *– спринт, женщины;*
***11 февраля*** *– спринт, мужчины;*
***12 февраля*** *– гонка преследования, женщины;*
***12 февраля*** *– гонка преследования, мужчины;*
***15 февраля*** *– индивидуальная гонка, женщины;*
***16 февраля*** *– индивидуальная гонка, мужчины;*
***17 февраля*** *– эстафета, женщины;*
***18 февраля*** *– эстафета, мужчины;*
***19 февраля*** *– масс-старт, женщины;*
***19 февраля*** *– масс-старт, мужчины.*

***7-Й ЭТАП КУБКА МИРА, ПХЁНЧХАН (ЮЖНАЯ КОРЕЯ) (27 ФЕВРАЛЯ – 5 МАРТА)***

***2 марта*** *– спринт, женщины;*
***3 марта*** *– спринт, мужчины;*
***4 марта*** *– гонка преследования, женщины;*
***4 марта*** *– гонка преследования, мужчины;*
***5 марта*** *– эстафета, женщины;*
***5 марта*** *– эстафета, мужчины.*

***8-Й ЭТАП КУБКА МИРА, ТЮМЕНЬ (РОССИЯ) (7–12 МАРТА)***

***9 марта*** *– спринт, женщины;*
***10 марта*** *– спринт, мужчины;*
***11 марта*** *– гонка преследования, женщины;*
***11 марта*** *– гонка преследования, мужчины;*
***12 марта*** *– смешанная эстафета;*
***12 марта*** *– смешанная эстафета (супермикст).*

***9-Й ЭТАП КУБКА МИРА, ОСЛО-ХОЛМЕНКОЛЛЕН (14–19 МАРТА)***

***17 марта*** *– спринт, женщины;*
***17 марта*** *– спринт, мужчины;*
***18 марта*** *– гонка преследования, женщины;*
***18 марта*** *– гонка преследования, мужчины;*
***19 марта*** *– масс-старт, женщины;*
***19 марта*** *– масс-старт, мужчины.*

**Андрей КОЗУБОВСКИЙ.**

ЗНАЕТЕ ЛИ ВЫ…



# Как отмечают Рождество в Германии

Рождество любят везде. Но в Германии особенно. Здесь празднуют не два-три дня, а целый месяц. Начиная с 1 декабря Германию не узнать: повсюду чувствуется атмосфера праздника и радости. Витрины магазинов, фасады домов, арки, улицы и деревья – все украшается к празднику. Все вокруг сверкает от рождественских огней!

Этот период подготовки к Рождеству называется Адвент.

Немцы вообще очень любят украшать свои жилища не только к праздникам, но и просто к сменам времен года, но перед Рождеством они превосходят сами себя. Окна квартир жилых домов словно участвуют в грандиозном соревновании на лучшее рождественское оформление. Гирлянды, фигурки, звездочки, светящиеся игрушечные домики и церквушки, картины на стекле из искусственного снега, шары, подсвечники, карабкающиеся в окна по веревке игрушечные Санта-Клаусы и в довершение ко всему световая иллюминация. Если в погоне за экономией немец ночью даже в туалет пойдет на ощупь, лишь бы не включить лишнюю лампочку, то в рождественский период его путь будет освещен оконными гирляндами.

Украшены даже подъезды. На входных дверях венки, композиции из шишек или просто звездочки, вырезанные вместе с детьми. Многие жильцы на лестничных площадках (а те, кому посчастливилось иметь небольшой палисадничек под окнами, то и в нем) выставляют снеговиков, оленей, Деда Мороза на санках.

Зовут его, конечно, иначе – не Дед Мороз, не Санта-Клаус, а “Рождественский человек”. На самом деле персонажей, похожих на Деда Мороза и приносящих подарки, в Германии два. Первый – Святой Николаус, день которого празднуется отдельно, 6 декабря. Накануне вечером дети выставляют за порог свои ботиночки, а утром находят в них сладости и маленькие подарочки, которые им принес святой.

Одна из традиций и обязательный атрибут домашнего украшения – Рождественский венок. Самая главная часть венка – толстые свечи. Их четыре. В каждый из Адвентов их зажигают. В первый – одну, во второй – две, в третий – три, в четвертый – все четыре. Они горят весь вечер, пока семья в сборе. Чтобы к Рождеству было еще что зажигать, свечи изначально разной длины, лесенкой: первая – самая высокая, четвертая – самая низкая. В классическом варианте венок делают круглым, из еловых веток, его украшают шишками, ягодами, сушеными яблоками, палочками корицы, маленькими елочными шарами.

Где-то к третьему Адвенту в домах ставят Рождественские елки. Германия живет под девизом защиты окружающей среды, и поэтому в большинстве домов елки искусственные. На втором месте – елки в корзинах, с корнями и земляным комом. Они пользуются особой популярностью у счастливых обладателей приусадебного участка, так как такую елку после праздника можно просто вынести на улицу, где она будет расти себе до следующего Рождества, а может, и еще несколько лет, пока ее еще можно будет втащить в дом. На третьем месте – елки срубленные. Их всегда жаль, потому что убирают их почти сразу после праздника, и лишь только в некоторых домах зеленые красавицы дожидаются Нового года. И немцы не были бы немцами, если бы не придумали для срубленных деревьев достойный ритуал послепраздничного расставания.

По традиции, на главных площадях всех городов устанавливаются большие нарядные елки, которые являются одним из неотъемлемых атрибутов немецкого Рождества. С самых давних времен существует поверье, что в зеленой хвое живет лесной дух. Кстати, рождественская традиция украшать елку гирляндами, звездами, фигурками Санта-Клауса, а также разнообразными игрушками и лакомствами пришел в Россию именно из Германии, а затем достаточно быстро прижился и в других странах. В немецких же домах елку по обычаю украшают в середине декабря. Бывает, что немцы ставят украшенную гирляндами елку также на своих балконах или перед домом, расписывают окна. Традиционная тема, конечно, рождественский библейский сюжет, соответственно празднику украшаются и подоконники.

Также характерной особенностью Рождества в Германии является то, что все немцы обожают создавать с помощью фигурок людей и животных различные религиозные сценки. Все эти фигурки бережно хранятся в семьях и даже передаются по наследству.

Главным символом Рождества считается Рождественская звезда. В реальности, рождественская звезда – это комнатное растение молочай красивейший, пуансеттия. Оно расцветает, как правило, в декабре и имеет ярко-красные прицветники, которые напоминают звезды.

Также символом немецкого Рождества является веселый рождественский фестиваль, начинающийся 11 ноября и продолжающийся до самого наступления Рождества. Немцы вовсю веселятся на рождественских ярмарках, где можно купить любимое многими немцами горячее красное вино с различными специями, которое называется глинтвейн, но немцы называют его глювайн. Глинтвейн бывает как крепким, так и слабоалкогольным. Не менее традиционен на ярмарках и другой рождественский напиток – горячий пунш, который готовят по старинному рецепту в огромной чаше и потом эффектно поджигают. Горячее вино согревает замерзших на улице людей и поднимает уже и без того отличное настроение.

В деревнях в семьях, сохранивших старинные германские традиции, на Рождество обычно подается рисовый суп с мясом, жаркое из говядины, на гарнир – красная капуста…

В городах же обычно подается жареный или запеченный гусь или утка с овощами и красной капустой на гарнир.

24 декабря – в Святой вечер – немецкие семьи по обычаю идут в церковь, а потом чинно садятся ужинать. На рождественский стол обычно подают семь или девять блюд. Рождество не обходится без пшенной каши на молоке, приправленной маслом и медом. Ну и обязателен фаршированный гусь с аппетитной румяной корочкой и самые различные закуски. Свинина с квашеной капустой считается также очень желанным блюдом на рождественском пиршестве. Немцы не могут обойтись за праздничным столом и без рождественского пирога, называемого штоллен, в рецепт которого входят многие сухофрукты и всевозможные приправы. Кстати, этот десерт становится на следующий день намного вкуснее, чем только что испеченный. Во время ужина все желают друг другу счастья, добра и здоровья и обмениваются подарками. А маленькие дети находят подарки под елкой еще и на следующее утро. Они искренне считают, что рождественские подарки приносит им Дед Мороз, по-немецки его называют Weihnachtsmann, хотя вот, например, в Баварии дети ждут Рождественского Ангела.

**Подготовил Иван ДРАБЧУК.**

*(Продолжение в следующем номере.)*







Адрас рэдакцыі: 220030, Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Прыёмная: тэл./факс (017) 328-68-71.
nvonlineinfo@gmail.com http://www.nv-online.info
Падпісныя індэксы:
63222 – для індывідуальных падпісчыкаў,
632222 – для прадпрыемстваў і арганізацый.

Заснавальнік і галоўны рэдактар
Іосіф Паўлавіч СЯРЭДЗІЧ



У сувязі з адсутнасцю магчымасці рэдакцыя матэрыялы не рэцэнзуе і не вяртае, права ўступлення ў перапіску пакідае за сабой. За інфармацыю, размешчаную ў рэкламных аб'явах, рэдакцыя не адказвае. Могуць друкавацца матэрыялы, у якіх пазіцыя аўтараў не падзяляецца газетай. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Надрукавана ў друкарні дзяржаўнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Мінск, пр. Незалежнасці, 79. Падпісана ў друк 19.12.2016 у 17.00. Аб'ём 4 друк. аркушы. Тыраж 24 020 экз. Заказ № 4820.

9 772071 964000 16099